# Пуцёўка на выбары

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

Мусіць быць створаны грамадскі наглядальны Савет (па ўзоры, відаць, расійскага НТВ), створаны на парытэтных пачатках з прадстаўнікоў улады, партыяў, грамадскіх арганізацыяў, журналісцкіх саюзаў.

Звяртае на сябе ўвагу і яшчэ адзін лозунг, агалошаны Сямёнам Домашам. У існуючай сітуацыі ён набывае надзвычайную актуальнасць. «Лічу прынцыповым тое, што дзяржавай павінны кіраваць псіхічна здаровыя людзі. І таму ўсе кандыдаты на пасаду прэзідэнта павінны прайсці незалежнае медыцынскае абследаванне стану псіхічнага здароўя».

Абсалютная большасць дэлегатаў падтрымала прапанаваную рэзалюцыю з'езда. «Мы падтрымліваем пагадненне пяці магчымых кандыдатаў: У.Ганчарыка, С.Домаша, П.Казлоўскага, С.Калякіна, М.Чыгіра, а таксама намаганні КРДС, скіраваныя на кансалідацыю грамадства і вылучэнне адзінага кандыдата. Усведамляючы, што будучыя прэзідэнцкія выбары могуць мець вырашальнае значэнне для далейшага лёсу Беларусі, мы, прадстаўнікі грамадскасці рэгіёнаў Беларусі, заяўляем пра свой актыўны ўдзел у будучай прэзідэнцкай кампаніі і выказваем сваю падтрымку магчымаму кандыдату кіраўніку Каардынацыйнай рады «Рэгіянальнай Беларусі» – Сямёну Домашу», — гаворыцца ў дакуменце.

На пасляз'ездаўскай сустрэчы з журналістамі С.Домаш заявіў, што «на прэзідэнцкіх выбарах рэгіянальныя арганізацыі выступяць кансалідавана, і мы будзем мець большыя шанцы на перамогу». «У дакументах з'езда няма пацверджання таму, што мы распачалі перадвыбарную кампанію. Ніякага фальстарту таксама няма. Ідзе аналіз сітуацыі і як грамадска-палітычныя сілы ставяцца да выбараў і каго б яны хацелі бачыць у якасці магчымых кандыдатаў», — так С.Домаш пракаментаваў з'езд «Рэгіянальнай Беларусі». С.Домаш адмаўляе, што падобнае рашэнне пагоршыць сітуацыю ўнутры «пяцёркі» патэнцыйных кандыдатаў. «Калі б яны прысутнічалі сёння на нашым мерапрыемстве, яны б адчулі падтрымку і для сябе», — лічыць С.Домаш. Аднак астатнія прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта, запрошаныя на з'езд, адмовіліся прыйсці на форум. І хоць С.Домаш звязвае гэта з тэхнічнымі прычынамі, відаць, справа ўсё ж у іншым. Відавочна, што ідэя адзінага кандыдата, якую больш за год спрабавала радзіць КРДС, памерла, паспеўшы хіба што паставіць крыж на самой Каардынацыйнай радзе. Членства Народнай Грамады у КРДС прыпыненае; афіцыйна выйшла з Рады Беларуская партыя працы, а цяпер і партыя жанчынаў «Надзея». Фактычна, КРДС ужо не мае кворуму. Тым не менш, адразу пасля стварэння «пяцёркі», калі з'явілася хоць нейкая пэўнасць у стане апазіцыі, КРДС, якая самаўхілілася ад вызначэння адзінага кандыдата (пра гэта заявіў С.Домаш 3 траўня на першай прэс-канферэнцыі «пяцёркі»), рэанімiравала бясплодную ідэю адзінага кандыдата і паспрабавала яе ажыццявіць. Тое, што аднаго з «пяцёркі» – Сямёна Домаша – найактыўна лабіруе КРДС, захапленне сярод астатніх прэтэндэнтаў, зразумела, не выклікае.

Па-другое, у грамадскай свядомасці за С.Домашам усталявалася характарыстыка «правага прэтэндэнта». Калі глянуць на расклад сілаў, прысутных на з'ездзе, то гэта насамрэч так. Са 107 рэгіянальных партыйных структураў 73 прадстаўляюць БНФ, 20 – АГП і 14 – БСДП (Народная Грамада). Пры гэтым не бяруцца ў разлік структуры грамадскага руху БНФ «Адраджэньне», прафронтаўскіх арганізацыяў Малады Фронт, «Адраджэньне Айчыны», праваабарончы цэнтр «Вясна» ды іншыя. Можа быць, чацвёрка апасалася быць абвінавачанай у прыхільнасці да правых сілаў – таму на з'езд і не прыйшла.

Закончылася сустрэча С.Домаша з журналістамі невялікай сенсацыйнай заявай, што з 15 студзеня па 15 сакавіка спецслужбы трымалі яго пад каўпаком і за патэнцыйным кандыдатам у прэзідэнты вялося татальнае сачэнне. «Магчыма, сачэнне ёсць і цяпер, але я яго не адчуваю», — падкрэсліў Сямён Домаш.

**Рыгор БУЯН**

# Только 8 процентов студентов хотят голосовать за Лукашенко

К такому выводу пришла социологическая служба молодежного движения ЗУБР после опроса 1.007 студентов в шести крупнейших ВУЗах страны. Опрос проводился в Белорусском государственном университете информатики и радиоэлектроники, Белорусской государственной политехнической академии, Белорусском государственном университете, Белорусском государственном экономическом университете, Белорусском государственном педагогическом университете и Белорусском государственном лингвистическом университете. На вопрос «Собираетесь ли вы принимать участие в выборах президента?» положительно ответили 88,5% опрошенных студентов. Лишь 7% ответили «нет» и 4,5% пока не определились.

Согласно результатам опроса, в общем за Александра Лукашенко будут голосовать лишь 8,2% студентов. 58,4% отдадут голоса другому кандидату. И 33,4% затруднились ответить на этот вопрос.

При этом серьезная борьба со страхом и неверием в свои силы отмечена после подсчетов ответа на вопрос «Кто победит на выборах – Лукашенко или другой кандидат?». Голоса тут разделились почти поровну – 40,2% ответили «Лукашенко» и 38,5% ответили «другой кандидат». 21,3% затруднились ответить.

Самыми консервативными ВУЗами оказались БГПА и БГПУ – там по 12% студентов хотят голосовать за Лукашенко. В таких демократических университетах, как БГУ и БГЭУ, таких студентов нашлось лишь по 4%. О деятельности ЗУБРа знают 54,1% белорусских студентов. 44,1% пока не слышали о движении, 1,8% затруднились ответить.

Почти половина тех, кто знает о ЗУБРе – 45,7% — оценивают его деятельность положительно, 22,2% — отрицательно. И 32,1% пока не определились со своим отношением к движению ЗУБР.

http://www.zubr-belarus.com/

# Закрыты з'езд

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар.1*

«Закрыты з'езд – такога паняцця няма ў Статуце, наадварот, аб'яўляецца поўная галоснасць. Таму фракцыя запрасіла журналістаў, і я думаю, канчатковае слова за дэлегатамі з'езда».

Сапраўды, журналістаў на з'езд пусцілі. Аднак праз невялікі прамежак часу 58 сябраў фракцыі «За адзінства» ўчынілі дэмарш і пакінулі з'езд. Як патлумачыў кіраўнік фракцыі, дэмарш зроблены ў знак пратэсту супраць непрызнання паўнамоцтваў дэлегатаў ад Магілёўскай гарадской арганізацыі партыі і прызнання іншых, «неіснуючых» структураў. А.Кароль назваў гэта коратка: «бальшавізацыя сацыял-дэмакратычнай партыі». Калі ў гатэлі «Турыст» працягваўся з'езд часткі партыі на чале з Мікалаем Статкевічам, у штабкватэры БНФ фракцыя «За адзінства» правяла канферэнцыю. Фракцыя вітала стварэнне «пяцёркі» і заклікала пяцёх прэтэндэнтаў вызначыць сярод сябе «першага сярод роўных», гэта значыць, адзінага прэтэндэнта. Большасць сябраў фракцыі выказаліся за «больш жорсткае структураванне фракцыі: дакладна вызначыць каардынуючы орган, вызначыць сябраў і прыхільнікаў фракцыі ў Народнай Грамадзе, выступаць з уласнымі ініцыятывамі». Аднак фракцыя «За адзінства» не збіраецца пераўтварацца ў асобную структуру: яна дзейнічае ў ранейшай якасці – як фракцыя ўнутры Народнай Грамады.

**Рычард ЛЬВОЎ**

# Лёс Беларусі залежыць ад выбараў

## *Інтэграцыя Беларусі ў міжнародную супольнасць напрамую звязаная з прэзідэнцкімі выбарамі*

«Разгляд пытання пра аднаўленне статусу «спецыяльна запрошанага» для нашага парламента ў ПА СЕ ў цяперашні час напрамую ўвязваецца з правядзеннем на Беларусі прэзідэнцкіх выбараў увосень бягучага года», — такую заяву 23 траўня ў палаце прадстаўнікоў зрабіў міністр замежных справаў Міхаіл Хвастоў. Жаданне легітымізаваць незаконны орган улады, які не прызнаецца цывілізаваным светам, вымагае ад знешнепалітычнага ведамства «многабаковай і інтэнсіўнай працы па тлумачэнні ўнутрыпалітычных працэсаў, якія праходзяць на Беларусі, з мэтай давесці да членаў нацыянальных парламентаў замежных краінаў аб'ектыўнай інфармацыі пра дэмакратычныя пераўтварэнні ў нашай краіне». Такая праца вядзецца, найперш, з парламентамі Італіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Бельгіі ды Швецыі, ды з Парламенцкімі асамблеямі АБСЕ, Савета Еўропы, іншых еўрапейскіх арганізацыяў. «Напрацаваны патэнцыял узаемадзеяння з замежнымі парламентарыямі і палітыкамі ўсяляе ўпэўненасць у дасягненні пастаўленай мэты», — сцвярджае М.Хвастоў.

Аднак міністр выдае жаданае за рэальнае. Па вялікім рахунку, М.Хвастоў мусіць рабіць падобныя неаб'ектыўныя заявы – інакш яму не ўседзець у займаемым крэсле. Еўропа не прызнала палату №2, бо вынікі выбараў былі сфальсіфікаваныя. Міжнародная супольнасць адназначна ставіць магчымасць інтэграцыі Беларусі ў залежнасць ад дэмакратычнасці прэзідэнцкіх выбараў, якія чакаюцца сёлета. У сярэдзіне траўня аналагічную заяву зрабіў прадстаўнік Еўрапейскага Саюза. Кіраўнік дырэктарата Усходняй Еўропы, Каўказа і дзяржаваў Цэнтральнай Азіі Генеральнага дырэктарата па знешніх сувязях Еўрапейскай камісіі Цімаці Сумма выказаў намесніку міністра замежных справаў Аляксандру Сычову зацікаўленасць Еўрасаюза ў дэмакратычным характары прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі. Цімаці Сумма падкрэсліў, што пасля прэзідэнцкай кампаніі ЕС правядзе «рэвізію» ўзаемаадносінаў з Беларуссю, і гэтая працэдура будзе ўключаць у сябе і разнастайныя праграмы фінансавай ды тэхнічнай дапамогі.

А на пачатку ліпеня ў Мінск чарговы раз прыедзе «парламенцкая тройка»: старшыня ПА АБСЕ Адрыян Севярын, старшыні камітэта па палітычных пытаннях ПА СЕ Тэры Дэвіса і кіраўніка дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Украінай, Малдовай і Беларуссю Яна Марыуса Віерсмы. «Тройка» спецыяльна створаная для каардынацыі дзеянняў гэтых міжнародных структураў у выпрацоўцы агульнай палітыкі ў адносінах да Беларусі. «Тройка» мае намер паглядзець ступень выканання чатырох умоваў АБСЕ, пастаўленых перад беларускім рэжымам, толькі выкананне якіх дазволіла б прызнаць выбары дэмакратычнымі. Верагодна, у бліжэйшыя месяцы ў Мінск можа завітаць і дзеючы старшыня АБСЕ міністр замежных справаў Румыніі Мірча Джоанэ.

Відавочна, што інтэграцыя Беларусі ў міжнародную супольнасць пастаўленая ў прамую залежнасць ад дэмакратычнасці прэзідэнцкіх выбараў.

**Юрась ШЧАСНЫ**

# Х.-Г.Вік атрымаў карт-бланш

У той час, калі беларускія ўлады пагражаюць высылкай кіраўніку КНГ АБСЕ за «дэструктыўную дзейнасць», пасол Ханс-Георг Вік заручыўся даверам свайго патрона — дзеючага старшыні АБСЕ міністра замежных справаў Румыніі Мірча Джоанэ. Мірча Джоанэ прыняў кіраўніка місіі АБСЕ на Беларусі для кансультацыяў 18 траўня ў Бухарэсце. Менавіта ў румынскай сталіцы дзеючы старшыня буйнейшай еўрапейскай арганізацыі «пацвердзіў свой давер кіраўніку КНГ і ягонай дзейнасці, накіраванай на ўмацаванне дэмакратычных працэсаў у краіне. Дзеючы старшыня, — гаворыцца ў распаўсюджаным паведамленні, — падкрэсліў неабходнасць працягнуць перамовы паміж еўрапейскімі інстытутамі і КНГ з беларускімі ўладамі па паляпшэнні рамачных умоваў маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў». Асаблівая роля ў пасярэдніцкай дзейнасці ізноў належыць менавіта КНГ АБСЕ ў Мінску.

Выказванне поўнай падтрымкі кіраўніка місіі АБСЕ Ханса-Георга Віка з боку дзеючага старшыні АБСЕ сталася своеасаблівым адказам еўрапейскай арганізацыі беларускім уладам на пагрозы выслаць пасла. Трэба нагадаць, што 17 траўня міністр замежных справаў Беларусі Міхаіл Хвастоў ва ультыматыўнай форме заявіў, што «мы вельмі ясна далі зразумець паслу, што болей урад не будзе цярпець дзейнасць, скіраваную на кансалідацыю намаганняў па дэстабілізацыі сітуацыі ў краіне».

«Мы ясна далі зразумець паслу Віку, што, калі ён будзе працягваць такую дзейнасць, мы разгледзім пытанне пра яго знаходжанне на Беларусі... Дзейнасць пасла не можа быць дэструктыўнай для ўрада, і ўрад рана ці позна павінен паставіць пра гэта пытанне. Пытанне пастаўлена, і калі пытанне будзе даведзенае да канца, мы проста папросім пасла пакінуць тэрыторыю нашай краіны». Дэструктыўнасць дзейнасці пасла заключаецца ў тым, што «на мінулагодніх парламенцкіх выбарах у кастрычніку ў лік унутраных наглядальнікаў былі ўключаны ўключна прадстаўнікі апазіцыі, і КНГ заплаціла ім за працу».

Аднак насамрэч аказалася не ўсё так проста: Ханс-Георг Вік і ягоная дзейнасць адобраная. Кантракт з пасломм, які заканчваецца ў ліпені, кіраўніцтва АБСЕ можа працягнуць далей. Высылка ж Віка з Беларусі – калі правячы рэжым усё ж асмеліцца на такі крок — выкліча скандал паболей, чым высяленне еўрапейскіх паслоў з рэзідэнцыі «Драздны».

**Генадзь БУЙНІЦКІ**

# Суд против свободы совести

Власти в очередной раз вознамерились водворить священника БАЦ Ивана Спасюка на тюремные нары: в Берестовицком районном суде рассматривается административное дело по обвинению отца Ивана и матушки Елены в... хулиганстве. А заключалось оно в том, что священник провел службу в каплице на белорусском языке.

Процесс этот назвать судебным невозможно, потому как судья Н.Казакевич нарушила практически все процессуальные нормы и права обвиняемого, гарантированные Конституцией Беларуси и международными правовыми нормами. Обвиняемому отказано в юридической помощи, в вызове свидетелей, в переводчике.

Судья Н.Казакевич заявила обвиняемому, который потребовал вести процесс на белорусском языке, что тот обязан знать русский язык. Однако такого требования к гражданам Беларуси не предусмотрено ни одним правовым актом, а вот право на переводчика гарантировано статьей 247 КоАП. Попирая статью 62 Конституции судья не дала обвиняемому возможности воспользоваться юридической помощью своего представителя. Н.Казакевич в категорической форме потребовала от обвиняемого, чтобы тот пользовался услугами платного адвоката, указанного судом. И, несмотря на заявление священника, что у него нет денег (сумма в пределах 50 тысяч. – **Авт.**), вызвала адвоката сама.

К чести данного юриста участвовать в таком, так называемом, процессе он отказался. И судья вынуждена была слушанье дела отложить.

И завершающий штрих к «судебному процессу» по-берестовицки. Милиция во время перерыва не выпускала отца Ивана из здания суда. Судя по всему наручники у них были уже наготове.

Русская православная церковь не терпит неподчинения, а суд послушно беззаконствует, надеясь на отпущение грехов.

**Валерий ЩУКИН**
**правозащитник, БХК**

## Урад думае пра гімн

Адміністрацыя прэзідэнта сумесна з Саветам міністраў разглядаюць самыя розныя варыянты вырашэння застарэлай праблемы з новым дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь. Створаная гадоў дзесяць таму яшчэ ў Вярхоўным Савеце камісія не здолела нічога прыдумаць, і па сёння беларускі гімн уяўляе сабой твор сталінскіх часоў, але без словаў. Міністр культуры Леанід Гуляка, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, паведаміў, што існуе тры варыянты, над якімі зараз раздумваюць высокія чыноўнікі.

Першы варыянт – радыкальны – прадугледжвае арганізацыю рэспубліканскага конкурсу па стварэнні новага тэксту і новай музыкі дзяржаўнага гімна. Другі варыянт разлічаны на сціплае абнаўленне – на старую музыку Н.Сакалоўскага напісаць новы тэкст. Для гэтага, сказаў міністр, можа быць створана дзяржаўная камісія, у якой будуць разглядацца прапанаваныя паэтамі тэксты. Трэці варыянт традыцыйны – дзяржаўны заказ на новы тэкст гімна некалькім вядомым прафесіяналам. Хутчэй за ўсё апошні варыянт і будзе ўхвалены, бо прафесіяналы напішуць тое, што трэба заказчыку, у дадзеным выпадку адміністрацыі прэзідэнта і Савету міністраў. Такім чынам, да «новых» сцяга і герба дадасца і новы стары гімн.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

## Радыкальная эканомія электрычнасці

У амерыканскім горадзе Дэтройце ў бліжэйшы час будзе пракладзеная электрамагістраль, якая выкарыстоўвае феномен звышправоднасці. Першыя 400 метраў звышправоднага кабелю ўжо пракладзеныя ў раёне электрастанцыі Дэтройт Фрысбі ў цэнтры горада. Кабель распрацаваны сумесна амерыканскай і італьянскай фірмамі. Асабліваясць новага праваднікá крыецца ў тым, што ён болей чым у 7 разоў лягчэйшы за звычайны электрычны кабель, больш гнуткі і не мае электрычнага супраціву. Гэтая апошняя якасць дазваляе перадаваць электраэнергію практычна без стратаў. На думку эксպертаў кампаніі «Дэтройт Эдысан» новы кабель дазваляе ўтрая павысіць эфектыўнасць работы электрычных сетак.

**Ігар ХАРКЕВІЧ**

## Атрута, за якую плаціш сам

Штогод паленне цыгарэтаў становіцца прычынай смерці 4 мільёнаў чалавек у свеце, бальшыня (65 працэнтаў) з гэтай колькасці прыпадае на развітыя краіны. Гэтакая змрочная статыстыка прагучала на міжнародным семінары дактароў-пульманолагаў, які адбыўся ў італьянскай сталіцы. Толькі ў Еўропе колькасць ахвяраў тытунёвай атруты штогод сягае за 650 тысяч чалавек. На думку медыкаў, неабходна інтэнсіфікаваць кампанію супраць звычкі да табаку і прыцягнуць увагу насельніцтва да небяспекі пасіўнага палення, калі ахвярамі становяцца людзі, якія знаходзяцца паблізу курцоў. Адначасна спецыялісты падкрэслілі важнасць больш актыўнага выкрывання наступстваў гэтай шкоднай прызвычаенасці.

Сярод заходнееўрапейскіх краінаў па распаўсюджанасці звычкі да палення першае месца займае Грэцыя – 40 працэнтаў насельніцтва. А вось у Швецыі доля курцоў складае ўсяго 20 працэнтаў.

Эксперты выказалі трывогу, што шмат у якіх краінах моладзь пачала прызвычайвацца да цыгарэты з больш ранняга ўзросту: калі 15 гадоў таму самымі юнымі курцамі лічыліся 16-гадовыя, дык цяпер планка знізілася да 13 – 14 гадоў. Трывожыць дактароў і распаўсюджанне гэтай небяспечнай для здароўя звычкі сярод жанчын.

Па прагнозах спецыялістаў, пры захаванні сённяшняй дынамікі распаўсюджвання курэння ў 2020 годзе ад тытуню штогод будуць паміраць каля 10 мільёнаў чалавек – насельніцтва сярэдняй дзяржавы.

**Віка ФЕДАРОВІЧ**



# Халодны душ на Сожы

*Перавага ў два мячы, якой хаця і дабілася жаночая зборная Беларусі па ручным мячы супраць нацыянальнай каманды Нідэрландаў, аказалася недастатковай дзеля таго, каб трапіць на чэмпіянат свету ў Італію.*

Перамога ў Гомелі з лікам 26:24, на жаль, не была раўназначнай поспеху галандак тыдзень таму ў Ратэрдаме, дзе яны пераадолелі падапечных Леаніда Гуско з больш «аўтарытэтным» лікам – 32:26.

А згодна з арыфметыкай двухраўндавых адборачных сустрэчаў, няўдачніцамі сталі менавіта беларускія спартсменкі.

Было зроблена, мабыць, усё магчымае дзеля такой патрэбнай перамогі. Пяць дзён зборная трэніравалася ў мясцовым Палацы спорту, кожны з іх быў распісаны літаральна па імгненнях, з камандай працавалі псіхолаг, дзесяткі разоў вывучаўся па відэастужцы пройгрыш.

Праўда, як паскардзіўся Леанід Мікалаевіч, не абышлося і без лыжкі дзёгцю: гарадскі раён абласнога цэнтра, дзе знаходзіцца гасцініца «Сож» і спартыўная пабудова, застаўся па нейкіх прычынах без гарачай вады, і ўвесь цвет беларускага жаночага гандболу вымушаны быў, як і простыя жанчыны з вёскі, стаяць у чарзе і грэць сабе ваду ў тазіках на камянях лазні.

Але такія звыклыя нават і для сталіцы «дробязі» наўрад ці сапсавалі настрой нашым дзяўчатам, якія прызвычаіліся ўжо і не да таго. Яны імкнуліся ў бой. На думку галоўнага трэнера, павінен быў дапамагчы і той факт, што большасць «зборніц» нарадзілася якраз на Гомельшчыне ці ў свой час гуляла тут, таму падтрымка «родных сцэнаў» была гарантаванай. Галандкі, бадай, празнаўшы пра гэтую «тэхнагенную катастрофу» ў самым цэнтры Еўропы, не вельмі спяшаліся ў госці і прыляцелі пазней. Як вызначылася, гэта была далёка не апошняя хатняя загатоўка саперніцаў.



Беларускі гандбол: смех скрозь слёзы

Разам з імі на матч з'явілася цэлая спецыяльная навуковая брыгада з рознымі камп'ютэрамі і іншым тэхнічным абсталяваннем.

Незвычайны пачатак гульні а 10 гадзіне раніцы – так і не змог разбудзіць трохсоттысячны мегаполіс, і толькі самыя фанатычныя аматары ды сваякі, чалавек пад 700, прыйшлі ў палац.

Мінус шэсць мячоў, якія прайгравалі нашыя гандбалісткі пасля матча на выездзе, дыктавалі стратэгію і тактыку паядынку. Ён пачаўся вельмі нервова, але з пятай хвіліны да апошняй, 60-ай, у ліку вялі толькі беларускі. Пасля першай трэці матча яны наблізіліся да запаветнай лічбы – 12:7. Удала гулялі ў варотах Наталля Петракова, свае бамбардзірскія здольнасці дэманстравалі Раіса Ціхановіч і Ірына Калпакова. Толькі неяк насцярожвала «бяззубасць» іншых палявых гульнякоў, але на перапынак сапернікі адправіліся пры лічбах на табло (якое дарэчы, двойчы сапсавалася ў ходзе сустрэчы) 15:10 на карысць нашай зборнай. Адпачнем на некаторы час і мы.

...У перыяд падрыхтоўкі да адборачнага алімпійскага турніра за пуцёўку ў Аўстралію галандская каманда здзівіла ўсіх. Яе настаўнік – Берт Баўэр – у мэтах паляпшэння гульні прапанаваў федэрацыі незвычайную спартыўную акцыю, якая мела нават сваю кодавую назву «Аранжавы план». Дык вось, прытрымліваючыся яго цэлы сезон, зборная праводзіла спецыяльныя трэніроўкі, прапаршлыя зборы, правяла больш за 20 таварыскіх сустрэчаў, адным словам, патраціла значную колькасць грошай.

Сваю пуцёўку ў Сідней яна так і не набыла, прайграўшы ў адборачных матчах моцным югаслаўкам, але затраты, як бачым, зараз пачалі сябе акупляць. Яшчэ адным ноу-хау «аранжавых», а яны лічацца ў гандбольным свеце заканадаўцамі моды, стала і такая навінка.

У ходзе кожнага паядынку за ім вельмі пільна сочыць вось гэтая спецыяльная група, якая ў момант відэаздымак, праз камп'ютэр, не толькі атрымлівае каштоўную інфармацыю, тэхніка-тактычныя выкладкі, а, што больш важней, выдае рэкамендацыі, як лепей гуляць далей, вызначае моцныя і слабыя бакі ў саперніцаў і прапануе бадай гатовы рэцэпт перамогі.

Па спецыяльнай сувязі, праз навушнікі парады атрымлівае галоўны трэнер Берт Баўэр і ўносіць, канешне, карэктывы ў гульню сваіх выхаванцаў. Відавочна, у супрацьстаянні камп'ютэра і чалавечага «на вока» бачна перавага тэхнікі. У час перапынку настаўнік гасцей мог разважліва ацаніць ход гульні. Без гэтага не абышлося.

Другі тайм стаў больш удалым для галандак. Ужо праз дзесяць хвілінаў лік скараціўся да мінімуму – 16:15, і, хаця да заканчэння гульні заставалася шмат часу, стала зразумелым – нашыя страцілі ніці гульні.

Саперніцы добра ўявілі сабе, адкуль ідзе найбольшая пагроза да іх варотаў (Калпакова ды Ціхановіч), і хутка «прыкрылі» іх. Не пайшла гульня ў 20-гадовай Крысціны Сватко, лепшай у першай сустрэчы, а намаганні Тацццяны Сіліч, Алы Матушковіц, Ганны Галынскай былі ў той дзень недастатковымі.

Усё ж за пяць хвілінаў да заканчэння з'явілася нейкая надзея на пасляховы фінал пры ліку 25:21, але, як высветлілася, ход гульні кантраляваў не Гуско, а Баўэр.

Апошні свісток арбітра з Даніі зафіксаваў перамогу беларусак – 26:24, але шчаслівыя ў гэты момант былі гандбалісткі з Галандыі. «Аранжавы план» даў, нарэшце, свае плады.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 28 мая — 3 июня

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**Овен.** Вы возвращаетесь к идее, имеющей отношение к образованию или упрочению социального положения, вероятно — связанными с отъездом в дальние края. Похоже, что срок ее реализации — все лето. Если вы думаете, что с понедельника пора начинать эту новую жизнь, то ссора или разногласия на пустом месте несколько снизят ваш пыл. Кто-то начинает «гоняться за двумя зайцами» в личной охоте.



**Телец.** Вы слегка забываетесь в понедельник и лишаетесь по мелочи денег. Ну, разве что на лекарства имеет смысл потратиться. Вопросы самопознания и мировоззрения для вас приобретают особый смысл, есть повод закопаться в литературе и пополнить свой духовный потенциал. В субботу могут всплывать подводные течения в отношениях, постарайтесь не баловаться с огнем и острыми предметами.



**Близнецы.** Вы готовы сорваться на крик в понедельник, но ведь и соперники попадаются не из пугливых. Мечта побывать в дальних странах воплощается в разных формах, а у кого-то — в телевизионной мании путешествий. Как знать, кто-то по дружбе окажет содействие или в приобретении путевки, или в открытии кабинетов власти. Поклонник выходит из лабиринтов и признается в любви в субботу.



**Рак.** Новости в понедельник о том, что близкий человек готов составить конкуренцию или внести перчика в жизнь, вряд ли повысит жизненный тонус. Во второй половине недели не исключен неожиданный взлет в карьере. Вы попадаете в кадр. Как знать, а вдруг и по службе помогут с квартирой, а за лето вы предпримете необходимые шаги в данном направлении.



**Лев.** Собственный ребенок откидывает номера в понедельник, но ситуация уж больно двусмысленная и опасная для какого-либо вмешательства. Зато с супругом вы способны достичь вершин блаженства. Если есть вопросы к начальству, то во второй половине недели имеет смысл обсудить их в дружеской, лучше неформальной, обстановке. Да и в обществе к вам настроены благожелательно.



**Дева.** Вы разрываетесь между двумя возможностями заработать деньги или двумя домами в понедельник. Однако эти заботы могут оказаться слишком мелкими, а ссоры — мимолетными. На работе довольно гладко все получается, к вам прислушиваются и подыгрывают. Можно задуматься и о здоровье, спокойствии, уединенном труде, когда никто не мешает. В субботу в родном доме намечается прибыль.



**Весы.** В понедельник автомобиль лучше оставить на стоянке и педантично соблюдать правила дорожного движения. В спокойной обстановке вы заняты творческим процессом, приятной работой, есть даже шанс привести в порядок нервную систему. В четверг или пятницу намечается встреча с очень симпатичным и интересным вам человеком. Кто-то даже подумает, что это судьба.



**Скорпион.** Не исключено, что в понедельник кто-то задумает покопаться в вашем кармане. Во всяком случае, лучше следить за бюджетом и не бросать денег на ветер. Во вторник или среду гости, как солнце, осветят ваш дом. Семейных праздников прибавляется по самым неожиданным поводам. К субботе кто-то возвращает долг или подкидывает хорошую идею летних заработков.



**Стрелец.** Вы с трудом удерживаете равновесие в отношениях с партнерами или супругом в понедельник. Как бы ни получилось так, что с досады кто-то решит воспользоваться легким вариантом любви. Для вас открываются неплохие перспективы блеснуть эрудицией и сорвать аплодисменты благодарных слушателей. Во второй половине недели может состояться отличный отдых в интересной компании.



**Козерог.** В понедельник вокруг вас слишком конфликтная атмосфера, как бы не было сбоев в здоровье из-за того, что не вовремя попали под горячую руку. Недавно сделанная работа может потребовать коррекции, и как бы за это «не досталось на орехи». В материальном положении неожиданные сдвиги к лучшему. По меньшей мере, получите подарок, что тоже неплохо. Кто-то вас любовно опекает в субботу.



**Водолей.** В понедельник кто-то вас разыгрывает, вы способны попасть в какую-то абсурдную или двусмысленную ситуацию. Но не играйте с огнем. Проявляются платонические настроения по отношению к объекту любви. Хотя не исключено, что к вам будет питать подобные чувства довольно массовая аудитория во второй половине недели. В это время имеет смысл идти ва-банк, не бояться кардинальных перемен.



**Рыбы.** В понедельник придется держать отчет перед родными и близкими за свое расточительное поведение. Хорошо бы не распаляться в спорах, не портить имущество по мелочам. В принципе, отличное время поискать уединения где-нибудь на природе, сменить городскую суету на тихую обстановку. Поездка в субботу способна принести коммерческий успех или дополнительный запас сил в жизненной борьбе.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1714 Нумар падпісаны ў друк 27/05/2001 (15:00) Наклад – 9.160